● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

17 снежня 1996 г. аўторак, № 291 (23094)



# ЗВЯЗДА

### *ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...падаражэюць тэлефонныя размовы

**Як вядома, прырода не церпіць пустаты: на змену ўжо адышоўшым у мінулае палітычным дэбатам прыйшлі цэны, вакол якіх зараз, як Зямля вакол сваёй восі, круціцца ўсё ў нашым жыцці — зарплата, харчаванне, настрой і г.д. Досыць крыху пабыць у грамадскім месцы, праехаць у транспарце, пастаяць у чарзе, каб зразумець, што цэны сёння не пакідаюць нашы галовы ў спакоі практычна ні на хвіліну. Вось і чарговыя чуткі сталі таму пацвярджэннем.**

Напалоханыя ўжо прайшоўшымі павелічэннямі цэн на шэраг тавараў і паслуг, людзі ўпэўнены, што хутка «скокне» ў цане і тарыф на тэлефонныя размовы. Па тлумачэнне мы звярнуліся ў Рэспубліканскае аб'яднанне «Белтэлеком».

Як паведаміў «Звяздзе» намеснік дырэктара Аляксандр Крукоўскі, пакуль ніякіх зрухаў у плане павышэння тарыфаў на гарадскія і міжгароднія размовы не плануецца, прынамсі, да канца года. Як падкрэсліў Аляксандр Мікалаевіч далей, памер мінімальнай заработнай платы (з якім звычайна звязваюць усе зрухі цэн у бок павелічэння) практычна не ўплывае на тэлефонныя тарыфы. Найперш яны залежаць ад кошту электраэнергіі і паліва. Адказваючы на заўвагу журналіста, што нафта падаражэла яшчэ на пачатку бягучага месяца, спадар Крукоўскі зазначыў, што ніякіх адпаведных афіцыяльных папер аб'яднанне не атрымлівала, таму пакуль усё застаецца як ёсць.

Зразумела, так будзе толькі да пары, да часу. Нездарма падчас размовы намеснік дырэктара абмовіўся, што «ніякіх значных павелічэнняў тарыфаў не будзе», не ўдакладняючы, праўда, калі дакладна яны будуць уведзены. Рызыкну зрабіць прагноз, што тэлефанаваць і лічыць хвіліны па новых цэнах мы будзем, хутчэй за ўсё, пасля Новага года.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### *СКАНДАЛ*

## Дырэктар славутай хакейнай школы -- «на лаўцы штрафнікоў»

Як стала вядома «Звяздзе», днямі аддзелам па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Партызанскага РАУС Мінска ўзбуджана крымінальная справа супраць дырэктара СДЮШАР «Юнацтва» і генеральнага менеджэра аднайменнага хакейнага клуба Валерыя Пальшакова.

Вядомы ў краіне хакейны спецыяліст, які выгадаваў не адно пакаленне выдатных спартсменаў, падазраецца супрацоўнікамі міліцыі ў парушэнні артыкула 91 Крымінальнага кодэкса РБ -- крадзеж маёмасці шляхам прысваення, растраты альбо злоўжывання службовым становішчам.

Падрабязнасці справы следства пакуль не раскрывае.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## Канікулы — на Каляды

Пастановай урада Рэспублікі Беларусь ад 3 снежня 1996 года рабочы дзень з панядзелка, 6 студзеня, пераносіцца на суботу, 4 студзеня 1997 года, гэта значыць калядныя святы будуць працягвацца для нас тры дні — 5, 6, 7 студзеня.



## БЕЛАРУСКІМ ЖАНЧЫНАМ МНОГАЕ ПАД СІЛУ

«Краіна пасля рэферэндуму ўступіла ў якасна новы этап свайго развіцця, і жанчыны ў гэтай дзяржаўнай перабудове павінны стаць значнай сілай». Аб гэтым заявіў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 14 снежня на з'ездзе Беларускага саюза жанчын (БСЖ). Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што часы безадказнасці мінулі. Цяпер заканчваецца перыяд фарміравання ўладных структур, бачныя рысы набывае дзяржаўная сістэма, пры якой важнейшай каштоўнасцю грамадства з'яўляецца чалавек з усімі яго патрэбнасцямі і імкненнямі.

Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што падрыхтаваны ўжо дакумент па фарміраванню верхняй палаты Нацыянальнага сходу краіны, дзе па яго прапанове не менш чым 30 працэнтаў будуць складаць прадстаўніцы слабага полу. «Атрымаўшы такім чынам рэальную ўладу, жанчыны, я ўпэўнены, хутчэй і лепш вырашаць болевыя працэсы, якія адбываюцца сёння ў грамадстве», — адзначыў Прэзідэнт.

Акрамя таго, кіраўнік дзяржавы параіў уключыць у Праграму БСЖ канкрэтныя задачы: аздараўленне дзяцей і арганізацыя вытворчасцей для экалагічна чыстага харчавання, а таксама кантроль за паступаючай у краіну гуманітарнай дапамогай. У рэалізацыі гэтых задач ён паабяцаў саюзу поўную падтрымку.

Аб тым, што даўно наспела неабходнасць актыўнага прыцягнення жанчын у кіраўніцтва справамі грамадства і дзяржавы, гаварылі ў сваіх выступленнях і дэлегаты з'езда, бо менавіта жанчыны ў немалой ступені забяспечваюць жыццядзейнасць грамадства, якое пакуль не вельмі высока ацэньвае гэту аддачу. Як адзначалася на з'ездзе, матэрыяльнае становішча 60 працэнтаў жанчын сёння не дае магчымасці задаволіць нават элементарныя патрэбнасці: забяспечыць паўнацэннае харчаванне дзяцей, набыць адзенне і абутак, аплаціць медыкаменты і камунальныя паслугі.

У сувязі з узнікшай сітуацыяй БСЖ запатрабаваў ад выканаўчай улады, і гэта адлюстравана ў пастанове з'езда, стварыць механізм рэалізацыі рэспубліканскай праграмы «Жанчыны Рэспублікі Беларусь». Са свайго боку саюз абавязаўся актыўна супрацоўнічаць з урадам, прафсаюзамі, іншымі грамадскімі арганізацыямі і аб'яднаннямі па забеспячэнню дастойных умоў жыцця жанчынам і дзецям.

Дэлегаты форуму абмеркавалі таксама асноўныя палажэнні Праграмы Беларускага саюза жанчын, якая ахоплівае перыяд да 2000 года. Прынята рашэнне дапоўніць яе канкрэтнымі задачамі па абароне інтарэсаў жанчын, сям'і, дзяцінства. Прыярытэтнымі ж названы такія напрамкі дзейнасці саюза, як дапамога жанчынам ва ўмовах беспрацоўя і масавых звальненняў, садзейнічанне развіццю жаночага прадпрымальніцтва, стварэнне новых рабочых месцаў і аднаўленне арганізацыі надомнай працы. Акрамя таго, вырашана актыўна весці прапаганду здаровага ладу жыцця, медыцынскіх ведаў, выхаванне ў жанчын пачуцця адказнасці за ўласнае здароўе і будучае пакаленне.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**



*Здароў, скрыпучы, мяккі снег!*

**Фотаэцюд Аляксандра КАРЖА.**

## АНАТОЛЬ МАЛАФЕЕЎ СУСТРЭЎСЯ З ПАСЛАМІ КУБЫ І ФІНЛЯНДЫІ

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Анатоль Малафееў прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікіі Куба Ганну Марыю Равіра Інхідуа, якая завяршыла сваю дыпламатычную місію ў нашай краіне.**

Пані пасол перадала Анатолю Малафееву віншаванні кіраўніцтва Нацыянальнай асамблеі Рэспублікі Куба з выпадку выбрання яго старшынёй Палаты беларускага парламента і запрашэнне наведаць сваю краіну з афіцыяльным візітам.

Анатоль Малафееў сустрэўся таксама з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Фінскай Рэспублікі Рауна Віемера.

Анатоль Малафееў падрабязна расказаў аб апошніх палітычных падзеях у нашай краіне, выніках усенароднага рэферэндуму, рабоце па фарміраванню Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, аб падрыхтоўцы першай сесіі.

Пасол Фінляндыі адзначыў неабходнасць актыўных палітычных кансультацый кіраўніцтва беларускага парламента з міжнароднымі арганізацыямі, падкрэсліў важнасць падтрымання кантактаў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў з парламентарыямі еўрапейскіх дзяржаў, што, на яго думку, павінна паслужыць дасягненню ўзаемаразумення і развіццю міжпарламенцкіх сувязей.

**БЕЛТА.**

## КУДЫ ЗНІКАЮЦЬ ПРАДУКТЫ?

**Не сакрэт, што апошнім часам у гандлі адзначаюцца пэўныя перабоі ў забеспячэнні насельніцтва шэрагам прадуктаў харчавання: з паліц магазінаў пачалі знікаць танныя айчынныя цыгарэты, смятана, тварог.**

На шматлікія пытанні наконт прычын такога становішча ў Міністэрстве гандлю заўсёды адказваюць, што вялікі аб'ём тавараў проста вывозіцца за межы краіны, з'яўляючыся крыніцай даходаў мноству «чаўнакоў». Калі шчыра, у тым, што не хапае прадуктаў, гэтая катэгорыя грамадзян вінавата не заўсёды: як ужо паведамлялася, многім прадпрыемствам (маргарынаваму заводу, тытунёвай фабрыцы і інш.) проста не хапае валюты на набыццё сыравіны за мяжой, што прыводзіць да скарачэння аб'ёмаў вытворчасці. Тым не менш, дзейнасць «чаўнакоў», як высветлілася, таксама ўплывае на наяўнасць ці адсутнасць у магазінах харчавання.

Так, як паведаміў карэспандэнту «Звязды» інспектар прэс-службы ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце Дзяніс Жураўлёў, толькі за адзін дзень у цягніках, што ішлі ў Расію, было затрымана 10 чалавек менавіта за вываз харчавання. Іх аб'ёмы ніяк не дазваляюць сказаць, што прадукты яны везлі для ўласнага спажывання: 818 кілаграмаў смятаны і 534 кілаграмы тварагу.

Смятана была ў фасаваных па паўкіло заводскіх пакетах, тварог таксама расфасаваны па кілаграму, відаць, для зручнасці гандлю. Зразумела, што ўсе гэтыя прадукты былі канфіскаваны. Смятана пайшла ў гандлёвую сетку Беларускай чыгункі, а тварог -- на корм жывёле, паколькі самі «чаўнакі» везлі на продаж ужо сапсаваны прадукт. Зазначым: гэта толькі адзін выпадак.

Па словах спецыялістаў, вываз харчавання ідзе штодзень, звычайны «ўлоў» работнікаў міліцыі складае мінімум 30--40 кілаграмаў прадуктаў. А колькі іх паспяваюць прыхаваць ці вывезці іншым шляхам?.. Вось і лічыце...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### *ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Дзялкі наркабізнесу чакаюць прыгавору

**Перайшоў у заключную стадыю судовы працэс па справе васьмі злачынцаў, жыхароў Віцебска, якія на працягу сямі гадоў займаліся вытворчасцю і збытам наркотыкаў.**

Як вядома, падпольная вытворчасць і збыт моцнага наркотыку фенцыклідыну была выкрыта міліцыяй яшчэ ў 1995 годзе. Следству ўдалося высветліць, што наркотыкамі займаліся высокапастаўленыя супрацоўнікі Віцебскага медінстытута, фармацэўтычнай фірмы і міліцыі. Такія справы, як правіла, разглядаюцца ў раённых гарадскіх судах. Раней і гэта справа трапіла ў раённы суд -- спачатку ў адзін, потым у другі і нават у трэці. Кожны з гэтых судоў вяртаў справу, не адважваючыся прымаць яе на разгляд. Як нам растлумачыў старшыня Віцебскага абласнога суда Тадэвуш Варановіч, ва ўсіх трох выпадках аказалася, што падсудныя з'яўляюцца ў той ці іншай меры сваякамі народных засядацеляў у гэтых судах. Для таго, каб такая шумная і далікатная справа была разгледжана аб'ектыўна, Тадэвуш Валянцінавіч вырашыў разгледзець яе ў абласным судзе першай інстанцыі. Крымінальная віцебская «васьмёрка» вяла гандаль наркотыкамі з Расіяй, Украінай і Прыбалтыкай. Сёння аматарам лёгкага хлеба «свеціць» па розных артыкулах ад 5 да 15 гадоў турмы.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### *ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Камунальныя сістэмы пачынаюць працаваць ва ўмовах жорсткай эканоміі

**У большасці насельніцтва ў сувязі з апошнімі паведамленнямі аб цяжкасцях з нафтай і газам узнікае адпаведнае пытанне наконт гарачай вады ў кранах і тэмпературы ў кватэрах.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік упраўлення камунальнай гаспадаркі і экалогіі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Станіслаў Дземяшкевіч, зараз вядзецца сур'ёзная работа па стварэнню належнага запасу паліва. Тыя бюджэтныя сродкі, якія былі атрыманы раней (60 мільярдаў рублёў) для гэтых мэтаў, практычна атавараны. Маюцца цяжкасці ў набыцці топачнага мазуту з Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў з-за недапастаўкі ім нафты. У сувязі са складаным становішчам камунальныя сістэмы пачынаюць працаваць у рэжыме жорсткай эканоміі, гэта значыць эканомнага выкарыстання паліва ў кацельнях, што знойдзе сваё адлюстраванне ў абмежаванні гарачага водазабеспячэння, а таксама, верагодна, -- у зніжэнні тэмпературы цепланосьбітаў. Усе вышэйпералічаныя мерапрыемствы будуць праводзіцца, па словах Станіслава Мікалаевіча, па графіку, зацверджаным мясцовымі выканаўчымі ўладамі.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА ЛІСТАПАД 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў лістападзе 1996 года ў параўнанні з кастрычнікам 1996 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 103,9 працэнта, у параўнанні са студзенем 1996 года -- 122,7 працэнта.

У параўнанні са снежнем 1995 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 129,7 працэнта.

**Аб памеры ўтрымання з наймальнікаў сродкаў для забеспячэння своечасовай выплаты заработнай платы**

У сувязі з апублікаваннем за лістапад 1996 г. індэкса спажывецкіх цэн Міністэрства працы і Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляюць.

У лістападзе мінімальны спажывецкі бюджэт (МСБ) на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек склаў 1.174.728 (1130633 x 1,039) рублёў у месяц.

Згодна з пастановай Мінпрацы і Мінстата ад 22.02.1996 г. № 13/4, для забеспячэння своечасовай выплаты заработнай платы неабходна ўтрымліваць з наймальнікаў суму ў памеры 60 працэнтаў МСБ, гэта значыць 704.840 рублёў на кожнага работніка (1174728 x 60:100).

Гэты нарматыў прымяняецца з дня апублікавання ў друку пры падачы заяўкі для атрымання сродкаў на заработную плату і пагашэння яе запазычанасці незалежна ад тэрмінаў утварэння.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 47 (66)



## СТВОРАНЫ ВУЧЭБНЫ ЦЭНТР

На базе Пінскага ўчотна-крэдытнага тэхнікума створаны рэгіянальны цэнтр перападрыхтоўкі спецыялістаў банкаўскай справы. Ім ужо арганізаваны і праведзены першыя заняткі па тэмах: «Новыя формы работы з насельніцтвам», «Крэдытная палітыка і аналіз крэдытнага партфеля».

У працэсе падрыхтоўкі кадраў задзейнічаны высокакваліфікаваныя работнікі Нацыянальнага і камерцыйных банкаў, супрацоўнікі дзяржаўнай улады і кіравання. Плануецца правядзенне сумесных семінараў з замежнымі банкамі, выкарыстанне вопыту банкаў у сферы эканамічнай адукацыі і банкаўскай дзейнасці.

**Вучэбны цэнтр запрашае да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых асоб.**

**Дзмітрый ЖУК.**

## ПРАДАЕЦЦА

❑ аўтамабіль «Урал-43203» (кунг), рухавік «КамАЗ», 1991 г. в., прабег 50 тыс. км.
*Тэл. у Міёрах — 2-28-31;*

❑ рухавік, карданны вал і іншыя запчасткі да «Масквіча-2140».
*Звяртацца*: Мінская вобл., Лагойскі раён, г. Плешчаніцы, вул. Чапаева, 26. Скіпар П. П.;
матацыкл «МТ-10» і рухавік «К-650», прабег 37 тыс. км.
*Мінская вобл., Бярэзінскі раён, в. Пагост. Тэл. 53-7-55;*

❑ «МТЗ-82», 1990 г. в., малая кабіна, новая гума, кандыцыянер, маюцца запчасткі — 4200 $.
*Тэл. (8-272) 5-82-90 з 19 гадзін;*

❑ трактар «МТЗ-80Л», танна;
«Аўдзі-100», дызель, у добрым стане, нерастаможаны, танна альбо мяняю; вагон-магазін, абсталяваны сігналізацыяй, электраабсталяваннем, танна;
«ГАЗ-66» у добрым стане за 1500 $ альбо мяняю на «УАЗ».
*Тэл.: (8-297) 51-8-19, 53-2-04;*

❑ новы вялікі дом з мансардай (без унутраных работ) у Івянцы, участак 8 сотак, танна.
*Тэл. (8-293) 34-4-52, вечарам;*

❑ зруб 7,5х3,5 м, лес апілаваны на хату (памер 7х7 м).
*Звяртацца: Мінская вобл., Стаўбцоўскі раён, в. Сямянчыцы. Лянцэвічу;*

❑ драўляны дом у добрым стане ў в. Жабчава Капыльскага раёна.
*Тэл. 75-2-16;*

❑ электрычны баян «Тапаз» з калонкай, у добрым стане за 2.500.000 рублёў; кнігу «Школа ігры на кларнеце» Б. Дзіка, 1975 г. в.
*Тэл. (8-272) 5-82-90 з 19 гадзін;*

❑ шчаня аффен-пінчара.
*Тэл. у Мінску (з 9 да 18 гадзін) 220-54-76;*

❑ шчанят той-тэр'ера (кішэнныя) гладкашэрсныя, без паху.
*Тэл. у Мінску — 255-54-95;*

❑ вагон-дом, уцяпляльныя шчыты для веранды, вароты на гараж.
*Тэл. у Драгічыне 2-15-79;*

❑ тэрмінова і танна прадаю фірму, званіць вечарам.
*Тэл. у Мінску 258-00-09;*

❑ дом драўляны, участак 8 сотак, цагляны гараж, лазня, водаправод, пячное ацяпленне.
*Тэл. у Бабруйску — 55-40-00;*

❑ дом з гаспадарчымі пабудовамі, 12 сотак зямлі ў г. Мар'іна Горка.
*Тэл. (8-213) 77-0-47, пасля 17.00. Рылік Мікалай;*

❑ гараж капітальны ў г. Маладзечне, альбо мяняю на любы гараж у Мінску.
*Тэл. у Мінску — 233-37-30;*

❑ аўтамабіль «ВАЗ-21063», 1985 г. в.
*Тэл. (8-292) 95-7-85, пасля 17.00;*

❑ дом 7х11 з гаспадарчымі пабудовамі і агародам на станцыі Лотва Шклоўскага раёна.
*Тэл. 27-4-51;*

❑ участак 10 сотак, 8 км ад Смалявіч, вада, электрычнасць ёсць — 400 $.
*Тэл. 238-04-21;*

❑ дом у г. Ваўкавыску, танна, ёсць гаспадарчыя пабудовы, агарод.
*Тэл. у Ваўкавыску — 3-20-87;*

❑ інвалідная каляска, новая, імпартная.
*Звяртацца: 231365 Гродзенская вобл., Іўеўскі раён, в. Байрошы. Поль Э. В.;*

❑ насадкі да электрадрыля: такарная, фрэзерная, піла дыскавая, галоўка шліфавальная.
*Тэл. у Мінску — 233-64-39;*

❑ драўляны дом з прысядзібным участкам у Юрацішках Іўеўскага раёна.
*Тэл. у Мінску — 254-16-19;*

❑ кватэра 2-пакаёвая ў в. Гезгалы Дзятлаўскага раёна, танна.
*Тэл. у Смаргоні — (8-292) 2-16-88;*

❑ жылы дом, чатыры пакоі, вялікая кухня, газавае ацяпленне, ванна, туалет.
*Тэл. у Слоніме — 22-4-17;*

❑ драўляны дом у добрым стане, цана дагаворная.
*Звяртацца: Акцябрскі раён Гомельскай вобл., тэл.: 3-22-02, 3-22-19;*

❑ кнопкі металічныя для адзення, магчыма ўстаноўка.
*г. Беразіно, вул. Савецкая, д. 9;*

❑ кабылка 1 год і 7 месяцаў — 300 $.
*Звяртацца: Гомельская вобл., Жыткавіцкі раён, в. Доўгая Дуброва. Тэл. 7-11-85;*

❑ трактар «МТЗ-80», 1993 г. в., «Т-40 АНМ», 1985 г. в., аўтамабіль «МАЗ-53371», 1993 г. в.
*Тэл. у Навагрудку — 3-20-68;*

❑ аўтамабіль «ВАЗ-21063», 1986 г. в., прабег 200 тыс. км.
*Тэл. у Мінску — 258-23-89;*

❑ маслабойка электрычная, новая, на 3—6 л смятаны, гатоўнасць масла — 15 хвіл.; да матацыкла «Днепр-16» вілку пярэднюю, колы ў зборы.
*Тэл. у Мінску — 248-39-35;*

❑ аўтамабіль «Фольксваген-Гольф-1», 1983 г. в., дызель, 114 тыс. км. 2700 $.
*Тэл. у г. Любань — (8-294) 56-4-23;*

❑ уцяпляльнік капота для МТЗ, 2 шт.
*Тэл. у Мінску — 258-71-71;*

❑ трактар «МТЗ» і рухавік Д-243, усё новае.
*Тэл. (8-017) 242-84-18;*

❑ «Масквіч-412» у добрым стане.
*Тэл. 238-88-69, пасля 19 гадзін;*

❑ «ВАЗ-21063», 1987 г. в., пасля капрамонту, бэжавы, на А-76, прычапное прыстасаванне, цана 2700 $, торг.
*Тэл. у Мінску — 241-75-45, пасля 20 гадзін;*

❑ аўтамабіль грузавы (5 т), дызель, «Стар-28», Польшча, нерастаможаны, 1983 г. в., танна.
*Тэл. у г. Іўе — 3-73-60, пасля 18.00;*

❑ новая рулявая калонка і б/к гідраўзмацняльнік руля да «ЗІЛа» ў Ляхавіцкім раёне.
*Тэл. (8-01633) 5-13-54;*

❑ рукавіцы рабочыя, па безнаяўнаму разліку, Навагрудак.
*Тэл. (8-01597) 2-38-58, пасля 18.00.*



**ТЭАТР «ВОЛЬНАЯ СЦЭНА»**

| |
|---|
| **17 снежня** |
| «Чорны квадрат» |
| **20 снежня** |
| «Рычард III» |
| **21 снежня** |
| «Галава» |
| **22 снежня** |
| «Паваліўся нехта». |

***Пачатак спектакляў у 19 гадзін.***

**Тэл. 234-60-08.**

## РОЗНАЕ:

■ дапамагу ў выкананні кантрольных і курсавых работ па ўсіх прадметах вышэйшай школы; праграміраванне задач і абслугоўванне ЭВМ.
*г. Брэст, тэл. 22-93-49;*

■ куплю без пасрэднікаў пакой.
*г. Мінск, тэл. 272-43-58;*

■ прадаю 2-пакаёвую кватэру ў Гарадзеі Нясвіжскага раёна, маецца хлеў, падвал, агарод.
*Тэл. (8-270) 41-5-71;*

■ мяняю гараж у кааператыве па вул. Ангарскай на гараж у раёне вул. Карастаянавай.
*Тэл. 268-64-50;*

■ разменьваецца 4-пакаёвая кватэра па вул. Кіжаватава на 3- і 1-пакаёвую або на дзве і 2-пакаёвыя.
*Тэл. 253-72-50;*
мяняю 2-пакаёвую кватэру ў г. Докшыцы на Вілейку, разгледзім і іншыя варыянты.

■ Тэл. у Докшыцах — 2-17-75, вечарам;
хачу ўладкавацца на працу за мяжу: мулярам, цесляром, тынкоўшчыкам, слесарам, настаўнікам.
*Мой адрас: 247970 Гомельская вобл., Жыткавіцкі раён, в. Людзяневічы. Шоўкавічу В. М. Тэл. 7-14-31;*

■ мяняю трактар «МТЗ-80» на «Т-25» з даплатай, трактар у добрым стане.
*г. Смаргонь, тэл. 95-4-71;*

■ кватэру 1-пакаёвую ў Мінску і дом у Навальні Гродзенскай вобл. на кватэру ў Мінску.
*Тэл. у Мінску — 271-76-84;*

■ аказваем аўдытарскія паслугі.
*Тэл. 227-94-46;*

■ мяняю ў Крупках 3-пакаёвую кватэру з усімі выгодамі на 1- ці 2-пакаёвую з даплатай, або прадам.
*Тэл. 5-56-06;*

■ мяняю цагляную дачу 8х8, хлеў, 5,4 соткі зямлі (3 км ад пас. Зялёнае) на кватэру ў Мінску, магчыма даплата.
*Тэл. 266-07-44;*

■ мяняю «Фольксваген-Джэта-2», 1984 г. в., н/р на «Фіят-Уно» н/р з даплатай.
*Тэл. у Ваўкавыску 3-20-87;*

■ куплю паралон для вырабу матрацаў.
*Тэл. у Драгічыне — 2-15-79;*

■ складаю індывідуальныя псіхалагічныя гараскопы па даце і часе нараджэння.
*Тэл. у Мінску — 239-77-61;*

■ мяняю 2-пакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў пас. Габрыелеўка Пухавіцкага раёна (у дадатак гараж, машына «АРО-10», падвал, агарод) на кватэру ў Мінску.
*Тэл. 245-49-16;*

■ даведка аб магчымасці атрымаць права на жыхарства ў ЗША, бясплатна.
*Звяртацца: 220114 г. Мінск, а/с 128.*

■ Кнігі, кампакт-дыскі, касеты з запісамі на англійскай мове.
*220114 г. Мінск, а/с 128.*



## У МІНСКУ АДКРЫЎСЯ ПЕРШЫ ФІРМЕННЫ МАГАЗІН СУСВЕТНА ВЯДОМАЙ ФІРМЫ «СОНІ»

Сярод знаўцаў замежнай тэлерадыёвідэаапаратуры прадукцыя японскай фірмы «Соні» (SONY) карыстаецца непахісным аўтарытэтам і ўстойлівым попытам. Адкрыццё яе фірміннага магазіна на праспекце Ф. Скарыны, 117 прайшло ўрачыста і прыстойна, без іцісканіны і беспарадкаў, як гэта назіралася нядаўна пры адкрыцці рэстарана «Макдональдс» на тым жа праспекце каля ГУМа. Відаць, меламаны, у адрозненне ад аматараў смачна паесці, — людзі куды больш выхаваныя і прыстойныя. Але гэта між іншым.

Шумную і шырокую рэкламную кампанію прадстаўніцтва «Соні» ў краінах СНД і іх мінскія партнёры са знакамітай беларускай фірмы «РАМПО» не праводзілі. Абмежаваліся звычайнымі прэзентацыйнымі мерапрыемствамі. Марка SONY гаворыць сама за сябе аб якасці гэтай прадукцыі.

Па словах генеральнага дырэктара «РАМПО» Георгія Сураўнёва, аўтарытэт «Соні» ў свеце вытворцаў і спажыўцоў тэлевідэарадыётавараў можна параўнаць хіба што з пазіцыямі не менш паважанага «Мерседэс - Бенц» у свеце аўтамабілебудавання. А пазіцыі гэтыя, нагадаем, на самым версе.

Таму зусім не выпадкова «РАМПО» ўступіла ў кантакт з рэгіянальным прадстаўніцтвам «Соні» на еўрапейскім кантыненце. У ходзе перагавораў было вырашана адкрыць у Мінску не проста чарговую гандлёвую кропку, а сапраўды фірменны магазін, дзе была б шырока прадстаўлена разнастайная прадукцыя «Соні».

Тут трэба адзначыць, што гэта японская фірма даволі кансерватыўная ў сваіх падыходах да збыту прадукцыі і з першым сустрэчным, няхай той паабяцае нават залатыя горы, на супрацоўніцтва не пойдзе. Акрамя таго, сваім партнёрам, як выказаўся Кірыл Бажадараў, рэгіянальны прадстаўнік фірмы «Соні» ў Мінску, скідку на беднасць фірма не дае. Калі рабіць бізнес, дык па прынятых у дзелавым свеце правілах. Але адно выключэнне «Соні» зрабіла — гарантыя на яе тавары ў Беларусі даецца на 2 гады, хаця ў іншых еўрапейскіх краінах гарантыя звычайна адзін год.

У гэтым сэнсе сярод іншых патэнцыяльных партнёраў (а гэта былі вядомыя камерцыйныя структуры Беларусі) «РАМПО» здалася «Соні» найбольш дынамічнай і падрыхтаванай.

Для тых, хто зацікавіўся прадукцыяй «Соні», паведамляем, што ў фірменным магазіне прадаюцца тавары так званай еўрапейскай зборкі і па самых нізкіх на гэты від прадукцыі «Соні» ў Мінску цэнах. Зніжэнне дасягнута за кошт прамых паставак. Чаму мы робім на гэтым акцэнт? Бо частка вырабаў «Соні», якія збіраюцца ў іншых не самых развітых і не еўрапейскіх краінах, завозіцца на Беларусь так званымі «чаўнакамі». А еўрапейская зборка (гэта заводы ў Германіі, Аўстрыі, Англіі, Францыі, Іспаніі, Італіі), безумоўна, якасная і не горшая за японскую.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## ВІНШУЕМ!

*Сардэчна віншуем з 45-годдзем Раісу Мікалаеўну АНТОШЫНУ. Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы, шчасця на доўгія гады.*

**З павагай калектыў атэлье «Алёнка».**

*Шчыра віншуем з 16-годдзем дарагую дачушку і сястрычку Вольгу УШЫВЕЦ са Смаргоні. Жадаем добрага здароўя, радасці і доўгага шчаслівага шляху ў жыцці.*

**Маці, бацька, сястра Люда.**

*Ад усёй душы віншуем з днём нараджэння любімую ўнучку Анастасію Барысаўну РЫНКЕВІЧ. Дай Бог ёй надоўга здароўя і шчасця.*

**в. Вясёлая, бабуля і дзядуля.**

# «ЯНЫ ТРЫМАЮЦЬ ЯГО Ў ІНФАРМАЦЫЙНАЙ ІЗАЛЯЦЫІ...»

## *З інтэрв'ю Аляксандра Каржакова «Шпігелю»*

***Паводле некаторых даных, адным з матываў адхілення былога «шэрага кардынала» стала інтэрв'ю часопісу «Шпігель». Мы прапануем крыху скарочаны пераклад гэтай размовы. Чытач мае права сам меркаваць, якімі этычнымі нормамі кіруецца А. Каржакоў, расказваючы ў цяжкія для прэзідэнта дні самыя інтымныя падрабязнасці яго жыцця. Нам жа здаецца, што зусім не добрымі намерамі ці жаданнем сказаць праўду кіраваўся экс-ахоўнік і нядаўні «сябар сям'і» прэзідэнта, калі шчыра гаварыў з нямецкімі журналістамі.***

***«Шпігель».*** **Пан генерал, доўгія гады вы былі асабістым ахоўнікам Барыса Ельцына, потым шэфам службы аховы прэзідэнта...**

***Каржакоў:*** —...адзінаццаць гадоў з невялікім перапынкам.

**— Чаму здарылася паўза?**

— У лютым 1988 года Барыса Ельцына знялі не толькі з пасады першага сакратара Маскоўскага абкома, але і кандыдата ў члены Палітбюро. Наша 9-е ўпраўленне КДБ, аднак, ахоўвала толькі прадстаўнікоў кіруючай эліты Савецкага Саюза.

**— Потым вы развіталіся са сваёй «фірмай з трох літар» і практычна на свае страх і рызыку паступілі на службу да Ельцына?**

— Так, гэтае рашэнне я прыняў пасля вядомага выпадку каля Масква-ракі.

**— У 1989 годзе, калі ваш падапечны ўпаў у ваду. Згодна з афіцыяльнай версіяй спачатку ён упаў з моста. Пазней гаварылі нават, што яго адтуль саштурхнулі.**

— Праўда, відаць, застанецца тайнай Ельцына. Калі я яго знайшоў, ён дрыжэў ад холаду і знявагі і ўяўляў сабой нікчэмнае відовішча. На наступны дзень прыхільнікі Ельцына раіліся наконт яго бяспекі і паглядзелі на мяне запытальна.

**— І вы былі гатовы працаваць нават без узнагароды?**

— Тры кааператывы выдзялялі па 100 рублёў штомесяц на маю зарплату, такім чынам, мая сям'я магла не галадаць.

**— А ў канцы вы сталі амаль што членам сям'і Ельцына.**

— Так, я з'яўляюся нават хросным бацькам малодшага ўнука Ельцына — Глеба. У Расіі хросны нясе адказнасць за свайго хросніка і з'яўляецца, такім чынам, членам сям'і.

**— Што ж павінна было здарыцца, каб такі блізкі сябар Барыса Ельцына, як вы, быў у чэрвені выгнаны?**

— Супала шмат акалічнасцей. Пачалося з выбарчай кампаніі, якой спачатку кіраваў тагачасны шэф адміністрацыі прэзідэнта Філатаў, потым яго цяперашні пераемнік Чубайс і Гайдар, які да сённяшняга дня свой чалавек у Крамлі. Усе трое пастаянна патрабавалі галовы пяці людзей: міністр абароны Грачоў, шэф ФСБ Барсукоў, віцэ-прэм'ер Саскавец, міністр спорту Тарпішчава і я павінны былі пайсці, паколькі мы быццам бы раілі Ельцыну замест выбараў звяртацца да сілы.

**— А ці ж вы не мелі на ўвазе сілавое рашэнне, калі раілі перанесці выбары і адкрыта заявілі, што Ельцын можа займаць сваю пасаду і без вотуму грамадзян?**

— Чыстая спекуляцыя. Сілавое рашэнне ніколі не стаяла на парадку дня.

**— Чаму ж вы не хацелі выбараў?**

— Паколькі мы выразна бачылі, наколькі знясілены Ельцын і што ён, магчыма, не зможа вытрымаць напружаную выбарчую кампанію. Урачы, якія яго лячылі, яшчэ 20 мая пісьмова ўказалі на такую небяспеку (паказвае пісьмо з грыфам «Адзіны экземпляр»). Іх папярэджанне гучала драматычна: «Прэзідэнту дазваляецца працаваць толькі некалькі гадзін у дзень».

**— Пра такі дыягназ за подпісам дзесяці ўрачоў рускі народ яшчэ пакуль нічога не ведаў.**

— Да таго часу мой уплыў на прэзідэнта ўжо зменшыўся. Пасля дзяржаўнага візіту ў Парыж вярталіся з геніяльнай высновай, што дочкі — як у выпадку Шырака — ідэальныя менеджэры на выбарах іх бацькоў-прэзідэнтаў. Іх роля вельмі падабалася любімай дачцэ Ельцына Таццяне. З таго часу яна практычна адна забяспечвае бацьку інфармацыяй, прычым такой, якую яна лічыць правільнай.

**— А хто забяспечвае Таццяну Барысаўну?**

— Барыс Беразоўскі, шэф афіцыяльнага расійскага тэлеканала ГРТ. Я сам неаднаразова бачыў, як Таццяна па сотавым тэлефоне пераказвала прэзідэнту нейкія гісторыі, якія Беразоўскі шаптаў ёй у другое вуха.

**— Але да гэтага дачка Таццяна спадзявалася перш за ўсё на вашу параду?**

— Гэтаму палажыў канец Беразоўскі з дапамогай сфабрыкаванай у яго бюро плёнкі. На ёй міністр спорту Тарпішчаў і я падаюцца як подлыя злачынцы.

**— Чаму ж ад вас вырашылі пазбавіцца?**

— Я ведаў, што ў перадвыбарным штабе нахабным чынам кралі грошы. Пра гэта за 10 дзён да майго звальнення я праінфармаваў прэзідэнта пісьмова...

**— Гэта здарылася за два тыдні да другога тура прэзідэнцкіх выбараў. Вы хацелі давесці справу да суда?**

— Не адразу. Спачатку павінны былі быць выйграны выбары.

**— Вы шукалі размовы з прэзідэнтам?**

— Шэф ФСБ Барсукоў і я ў гэты дзень у 8 гадзін раніцы былі ў Ельцына. Мы размаўлялі з ім 40 хвілін, склалася ўражанне, што наша справаздача задаволіла яго. Усю ноч Чубайс і яго памочнікі сядзелі ў шэфа тэлебачання Беразоўскага і не выключалі, як я цяпер ведаю, што ў любы момант могуць быць арыштаваны.

**— Гэта ўваходзіла ў вашы планы?**

— Мы не хацелі рускага Уотэргейта. Барыс Ельцын павінен быў быць перавыбраны. Каля 12 гадзін 15-хвілінную аўдыенцыю ў прэзідэнта атрымаў і Чубайс. Відаць, тады ён паставіў перад Ельцыным ультыматум: ці ідзе каманда Каржакова, ці перадвыбарная каманда, а разам з ёй і любая надзея на перавыбранне Ельцына.

**— Хіба ж рашэнне было няправільнае? Ельцын перавыбраны прэзідэнтам.**

— Так, але ж вы бачыце, што з яго стала.

**— Што ж вы чакаеце ад дзяржавы?**

— У ЗША шэф ФБР, які знаходзіцца на пенсіі, атрымлівае столькі грошай і бяспекі, што ён можа абавязацца не даваць ніякіх інтэрв'ю 20 гадоў. Між тым генерал арміі Барсукоў, экс-дырэктар нашай ФСБ, прыгавораны чачэнцамі да смерці, засоўвае ў кішэню дамскі пісталет кожны раз, калі выходзіць на вуліцу пагуляць са сваім сабакам.

**— Вам не прапаноўвалі ніякіх пасад?**

— Ад логікі пана Чубайса займае дух. Афіцыяльна з мяне робяць дзяржаўнага злачынцу, а цішком робяцца прапановы ўсё больш прывабныя: прадстаўнік МУС у Славакіі, прадстаўнік міністра абароны пры НАТО, нават пасол у НАТО ў Бруселі ці якая-небудзь пасада на мой выбар.

**— Як у казцы.**

— Але я не хачу ад'язджаць. Якраз цяпер жыць у Расіі становіцца вельмі цікава.

**— І таму Аляксандр Каржакоў вырашыў стаць палітыкам?**

— Але ж Ельцын сам у адным інтэр'ю сказаў, што я павінен ісці ў палітыку, калі я гэтага хачу, але не праз заднія дзверы. І я хачу гэтага — у якасці дэпутата Дзяржтдумы.

**— Чаму менавіта ў Тульскай вобласці, былой выбарчай акрузе Аляксандра Лебедзя?**

— Так склаліся абставіны. Там проста першым месца вызвалілася.

**— Ніякага палітычнага саюза?**

— Гэта было б надта гучна сказана. Лебедзь — палітык зусім іншага кшталту.

**— Значыцца, усё ж саюз двух адстаўных генералаў?**

— Тое, як Лебедзь быў звольнены прэзідэнтам, я лічу амаральным і зневажальным. У рэшце рэшт менавіта Лебедзь галасамі сваіх выбаршчыкаў дапамог Ельцыну перамагчы.

**— У вас ёсць тлумачэнні для паводзінаў Ельцына?**

— Яны трымаюць яго ў інфармацыйнай ізаляцыі. Гэта можна параўнаць толькі з ізаляцыяй Леніна Сталіным незадоўга да смерці Леніна ў Горках. Ці з тым, як путчысты блакіравалі Гарбачова ў 91-м годзе. Ельцын атрымлівае інфармацыю толькі ў дазіраваным выглядзе ад дачкі Таццяны і Чубайса. Ніхто не павінна яго хваляваць.

**— Ці не пагражае Расіі ў выніку так званае рэгенцтва аж да смерці Ельцына?**

— Чаму «так званае»? Рэгента нельга не бачыць. З таго часу, як я ўжыў гэтае слова, мы кожны дзень бачым нашага прэзідэнта на экране. Ён некага вітае, наступны кадр — сядзіць за сталом, наступны кадр — смяецца ў камеру. Мы павінны штодня бачыць, што Барыс Мікалаевіч адчувае сябе добра.

**— Вы ведаеце Барыса Ельцына зблізку як ніхто іншы: ён можа зноў папраўіцца настолькі, як таго патрабуе яго пасада і чакаюць выбаршчыкі?**

— Я не хацеў бы адказваць на гэтае пытанне.

**— Хто будзе наступным прэзідэнтам Расіі і калі?**

— Калі — гэта воля Божая, хто — гэта вырашыць рускі народ.

**Пераклад з нямецкай Валянціна ЗАПЯВАЛАВА.**

*«Литературная газета».*




**Беспрацоўны на вуліцы ірландскай сталіцы г. Дубліна гандлюе перыёдыкай.**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

***ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ***

# Парадоксы на кончыку вашага языка

***У папярэднім артыкуле («Звязда» за 5 снежня) мы разгледзелі ўплыў маленькай часціцы «не» на... свядомасць людзей. Аднак акрамя гэтага аспекта існуе і другая, не менш цікавая, заканамернасць карыстання мовай. Гэтая заканамернасць універсальная, хоць і носіць чыста парадаксальны характар. Дык вось, увага.***

Калі ВАША ДУМКА выказана ў цяперашнім часе, то яна мае відавочна выражаную тэндэнцыю да ажыццяўлення(!) праз нейкі час, паколькі яна «прывязана» менавіта да вас па часе.

Калі думка выказана ў мінулым часе, то яе ўплыў на будучыню чалавека зводзіцца да нуля, бо ў наяўнасці разрыў паміж вамі і думкай у часе.

Ну, а калі размова ідзе з прымяненнем будучага часу — памятайце, вы ствараеце сабе відавочныя цяжкасці ў рэалізацыі сказанага, з прычыны таго ж разрыву ў часе паміж думкай і вамі.

Карацей, усё, што мы гаворым у цяперашнім часе, хутчэй за ўсё збываецца ў будучым. А сказанае ў мінулым ці будучым часе практычна выключае ўздзеянне на вас, або нават рэалізацыю. Акрамя таго, чым больш працягла і часта чалавек выказвае якую-небудзь думку, тым мацнейшы яе ўплыў на гэтага чалавека. Энергія аднолькавых думак як бы накопліваецца ў чалавеку, што адназначна прыводзіць як да станоўчых, так і да адмоўных вынікаў.

А цяпер давайце разгледзім усё гэта на канкрэтных прыкладах.

Урач пытаецца ў наведвальніцы: «Што у вас баліць?» Наведвальніца адказвае: «Доктар, вельмі баліць галава, сэрца і ўвогуле я ўся такая хворая, што сіл проста няма». Даволі кваліфікаваны ўрач устанаўлівае дыгназ, выпісвае лекі і, праяўляючы душэўную шчодрасць, напаследак супакойвае пацыентку: «Вы не хвалюйцеся, хворая. Прымайце лякарствы, і ўсё пройдзе, вы не адчайвайцеся. Дыягназ ваш не такі страшны». У выніку памылковых паводзінаў як пацыенткі, так і самога ўрача дзеянне лякарства рэзка слабее, а то і ўвогуле назіраецца адваротны эфект — хвароба зацягваецца, прагрэсіруе. Паколькі і ўрач, і пацыентка адназначна пацвярджаюць, што сама наведвальніца хворая (цяперашні час), то гэтым самым вакол яе фарміруецца нейкае «поле думкі», якое ўзмацняе захворванне з цягам часу. Гэта значыць, даецца падсвядомая ўстаноўка на хваробу, і заўтра чалавеку становіцца горш, паслязаўтра яшчэ горш і гэтак далей.

Гэта першая памылка абоіх. Другая, але ўжо ўрача, заключаецца ў памылковым прымяненні ў мове ўсё той жа часціцы «не» і выказванні думкі ў будучым часе, што яшчэ больш ускладняе лячэнне хваробы.

На мой погляд, у дадзеным канкрэтным выпадку дыялог урача і пацыенткі мог бы выглядаць так:

Урач: «Што здарылася?»

Пацыентка: «Доктар, у мяне забалела (мінулы час) галава. Ноччу былі (былі) болі ў сэрцы і наогул, мінулы тыдзень я адчувала ў сабе нейкі ўпадак сіл».

Урач: «Усё гэта можна лёгка паправіць. Ваша захворванне дастаткова хутка можна вылечыць пры дапамозе лякарстваў. Я вам выпісваю рэцэпт. Праз некалькі дзён пасля прыёму лякарства я чакаю вашага званка ці заходзьце да мяне».

Спецыяльна звяртаюся да медперсаналу: мілыя сёстры і браты міласэрнасці. Дзякуй вам за тое, што з гэтага моманту вы перастаяце называць сваіх падапечных хворымі.

Працягваючы размову аб здароўі, дазволю сабе даць вам, дарагія чытачы, некалькі рэкамендацый, якія дапамагаюць пры лячэнні хвароб і іх прафілактыцы.

**Правіла 1-е.** Як мага часцей сцвярджайце ў цяперашнім часе, што вы абсалютна здаровыя, што вашы хваробы пакідаюць вас назаўсёды. Пры самых цяжкіх захворваннях кожны дзень і як мага часцей пішыце гэта на паперы, прамаўляючы напісанае ўслых. Калі вы праявіце ўпартасць і настойлівасць, вас чакае толькі станоўчы вынік.

**Правіла 2-е.** Калі хворыя вашы дзеці ці дарослыя сваякі — як мага часцей пішыце на паперы, прамаўляючы ўслых: «Дзякуй Богу, што мой сын (дачка) здаровы(ая)» ці «мая мама папраўляецца» і да т. п.

Гэтыя правілы праверaны мною на практыцы і даюць цудоўныя вынікі ў самых, здавалася б, безвыходных сітуацыях, паколькі закон парадаксальнасці дзейнічае тут на ўсе сто працэнтаў і сцвярджае наступнае: «Тое, што хочаш мець, — уяві, што ў цябе ўжо ёсць».

**Трэці аспект** прымянення мовы — гэта адмова ад клятвы. Старайцеся пазбягаць у сваім жыцці жорсткіх абяцанняў і клятваў, асабліва важна пазбягаць клятваў сваім здароўем, сваімі блізкімі і г. д. А сцвярджайце сказанае вамі толькі ва ўмоўнай форме: «пастараюся пазваніць, прыйсці, дапамагчы» і г. д. Але пазбягайце гаварыць: «добра, пазваню; буду абавязкова, прыйду» і да т. п.

Вельмі добра аб гэтым сказаў Ісус Хрыстос: «А я гавару вам: не кляніцеся зусім ні небам, ні зямлёю, ні галавою тваёю, але няхай будзе слова ваша «так-так», «не-не», а што звыш гэтага, тое ад нячыстага».

Памятайце: як толькі вы далі слова, вы абавязаны дакладна яго выканаць, але вельмі часта, акрамя вашай волі, з прычыны «выпадкова» ўзнікшых акалічнасцей, чалавек парушае дадзенае ім абяцанне. У выніку гэтага вакол яго фарміруецца і накопліваецца негатыўная энергія падману, якая прыцягвае ў яго жыццё менавіта такія акалічнасці і людзей, якія таксама пачынаюць абяцаць і парушаць свае клятвы. Але псіхіка чалавека ўстроена так, што аб парушэнні ўласнага слова ён вельмі хутка забываецца, а пра забытае абяцанне іншых людзей памятае вельмі доўга.

**Чацвёрты аспект** — так званая формула шчасця:

«Самы лепшы дзень — гэта сёння, самая лепшая часіна — гэта цяпер».

Гэтая формула выключна дабратворна ўплывае на свядомасць чалавека, прымушаючы галаўны мозг прымаць правільныя і разумныя рашэнні ў любых сітуацыях, дазваляючы выконваць любую работу з радасцю ў душы і сэрцы, лёгка і свабодна. Людзі-вернікі разумеюць яе так: «На ўсё, што б ні здарылася — і добрае, і дрэннае, воля Божая». Вечарам, перад сном, гаворачы гэту фразу, яны могуць надаць ёй наступны сэнс: «Дзякуй Табе, Усявышні, што я сумленна пражыў гэты дзень, камусьці дапамог, чамусьці навучыўся, радаваўся гэтаму дню. Самы лепшы час — гэта цяпер, калі я з чыстым сумленнем, са спакойнай душой засынаю».

Тое, чым вы станеце заўтра, у многім залежыць ад таго, што вы скажаце сёння.

**Міхаіл РУЦКІ, псіхолаг.**

36,6

# КАЛІ БАЛЯЦЬ СУСТАВЫ

**Многія лічаць, што захворванні суставаў практычна не вылечныя, а людзі, асабліва сталага ўзросту, вымушаны ўсё астатняе жыццё пакутаваць ад болю. Але нельга апускаць рукі. Існуе мноства старажытных рэцэптаў, якія дапамагаюць, трэба толькі не шкадаваць часу і вельмі хацець вылечыцца. Калі па якой-небудзь прычыне вам не падыдзе адзін рэцэпт — не спыняйце лячэння на сярэдзіне і давядзіце яго да канца. Потым прымайцеся за другі і верце ў поспех.**

● ***Распусціце стэарын або вос**к* і ў гарачым выглядзе намажце яго слаямі на балючыя месцы (да 40 слаёў). Бывалі выпадкі, што іншыя вылечваўся за 1—3 разы.

● ***Натрыце балючыя месцы свежай разрэзанай цыбулінай*** або зрабіце абкладанні свежай цыбуляй і цёртым свежым часнаком. Пры з'яўленні смылення працэдуру спыніце.

● ***Адвар з кораня лопуху:*** заварыце шклянкай кіпеню 1 ст. лыжку здробненага кораня лопуху (лепш свежага), пастаўце на слабы агонь і гатуйце 20 хвілін. Піце па 1 ст. лыжцы 4 разы на дзень за 30 хвілін да яды.

● ***Мазь з кораня лопуху:*** 1 частку адвару кораня змяшайце з 4 часткамі масла. Адвар згусціце. Уціраййце ў балючыя месцы.

● ***Змяшайце 1 шклянку чыстага мёду, 1,5 шклянкі соку рэдзькі, 0,5 шклянкі гарэлкі, 1 ст. лыжку кухоннай солі.*** Уцірайце сумесь у балючыя месцы, пажадана пасля лазні перад сном, адначасова прымаючы па чарцы гэтай сумесі.

● ***Балючыя суставы змазвайце маззю, прыгатаванай наступным чынам: змяшайце 150 г лісця багуну, 150 г здробненага кораня чамярыцы белай, 500 г несалёнага свінога тлушчу*** (лепш шмальцу) і патрымайце ў духоўцы ноч.

● ***Змяшайце 50 г камфоры, 50 г парашку гарчыцы, 100 г сырога яечнага бялка*** (бялок узбіце асобна). Спачатку растварыце ў 0,5 л гарэлкі камфору, потым гарчыцу і, нарэшце, яечны бялок. Настойвайце 7 дзён. Уцірайце ў балючыя месцы.

● ***Заліце 0,5 л воцату 3 ст. лыжкі кветак шыпшыны,*** пастаўце на агонь і гатуйце на малым полымі (пасля закіпання) 5 хвілін, працадзіце. Змазвайце апухлыя суставы.

● ***Пры рэўматызме, падагры, мышачных болях уцірайце ў балючыя месцы настойку карэнішчаў і кораня дзягілю лекавага:*** 5 часткамі гарэлкі або спірту заліце адну частку кораня, настойвайце ў цёмным месцы пры пакаёвай тэмпературы 14 дзён, працадзіце. .

● ***Заліце гарэлкай (5 частак) 1 частку здробненага адамава кораня,*** настойвайце 14 дзён у цёмным месцы. Расціраййце балючыя суставы. Можна прымяняць і пры радыкуліце. Расліна ядавітая, карыстайцеся асцярожна.

● ***Заліце гарэлкай або спіртам (0,5 л) 50 г кветак караўяка*** (мядзвежага вуха), настойвайце 14 дзён. Скарыстайце для націранняў як абязбольвальны сродак.

● ***Заліце гарэлкай (1 бутэлька) сумесь з роўных частак сцяблін, іголак і ягад ядлоўцу*** (1/3 частка бутэлькі), настойвайце 21 дзень. Уцірайце ў балючыя месцы на ноч.

● ***Змяшайце 2 ст. лыжкі здробненай травы багуну з 5 ст. лыжкамі алею,*** настойвайце 12 гадзін у закрытай пасудзіне на гарачай пліце, зрэдку памешваючы. Працадзіце. Уцірайце ў балючыя месцы.

● ***Заліце 0,5 л гарэлкі 3-4 стручкі чырвонага перцу,*** настойвайце 14 дзён, працадзіце і змяшайце з 300 г алею. Націрайце балючыя месцы.

● ***Змяшайце здробненыя ў парашок 6 частак лаўровага лісту, 1 частку іголак ядлоўцу і 12 частак свежага масла.*** Уцірайце ў балючыя месцы.

● ***Разатрыце ў парашок 1 ст. лыжку шышак хмелю і змяшайце з 1 ст. лыжкай несалёнага свінога сала або свежага масла.*** Прымяняйце ў якасці болесуцішальнай мазі пры падагры і рэўматызме.

● ***Змяшайце 100 мл гарэлкі з 2 флаконамі настойкі валяр'яну, пакладзіце туды 2 стручкі горкага перцу***, настойвайце 3 гадзіны. Уцірайце пры рэўматызме ў балючыя месцы.

● ***Мазь з бярозавых пупышак лічыцца адным з самых моцных і дзейсных сродкаў лячэння рэўматызму.*** Пакладзіце слаямі ў каструлю 880 г свежага несалёнага масла і бярозавыя пупышкі: чаргуйце слой масла (1,5 см таўшчынёй) з такім жа слоем пупышак да таго часу, пакуль усё масла не будзе выкарыстана. Затым пасудзіну закрыйце накрыўкай, якую абмажце цестам, і пастаўце на суткі ў цёплае месца (печ, духоўку). Пасля гэтага выцісніце з пупышак масла і змяшайце яго з 8 г парашку камфоры. Захоўвайце мазь шчыльна закрытай у халаднаватым месцы. Уцірайце ў балючыя месцы не менш як 1 раз у дзень, лепш увечары перад сном. Адначасова піце настойку або адвар з пупышак бярозы.

● ***Заліце 7 л кіпеню 150 г травы палыну звычайнага,*** настойвайце 5 хвілін на агні, астудзіце да 50° і мыйце ў гэтым адвары ногі і рукі перад сном. Ногі — пачынаючы ад ступняў і заканчваючы каленямі. Не выціраючы, дайце абсохнуць і кладзіцеся спаць. Адзін адвар можна прымяняць 3 разы, кожны раз падаграваючы яго да патрэбнай тэмпературы. Працэдуру паўтарайце на працягу 1,5 месяца. У час лячэння замест вады піце адвар лісцяў брусніц без абмежаванняў. З пачатку лячэння адначасова з працэдурамі 2 разы на дзень за 30 хвілін да яды прымайце па 20 кропель настойкі пустырніку.

*«Работница».*

## БРЫТАНСКІ ДЗЕЛАВЫ ГАРАСКОП на тыдзень

Канец тыдня абяцае галаўны боль АВЕНАМ. Не патрабуйце адказаў на ўсе ўзнікаючыя пытанні. Больш разумна назіраць за натуральным развіццём падзей і сканцэнтравацца на асабістым жыцці. Хтосьці паспрабуе праявіць залішні клопат. Не падманвайцеся ліслівасцю і не ідзіце на сумнiўныя кампрамісы, якія вам могуць быць прапанаваны.

ЦЯЛЬЦАМ не варта ўступаць у канфлікты з-за грошай — усё будзе дарэмна. У вашых апанентаў свой бюджэт і свае інтарэсы, а вы павінны прытрымлівацца сваіх і адстойваць сваю фінансавую бяспеку. Тое, што адбудзецца ў аўторак, павінна запэўніць вас у тым, што вы робіце правільна. У чацвер вам могуць прапанаваць добрую работу.

Сутыкненне ў вашым сузор'і Сонца і Марса да суботы прымусіць БЛІЗНЯТ адчуць напружанасць. Прафесіянальна вам будзе спадарожнічаць пэўны поспех, але вам ён здасца недастатковым. Стрымайце свой тэмперамент на некалькі дзён. Зоркі рыхтуюць вам прыемную «пастку», у якой адносіны з многімі вашымі партнёрамі здадуцца вам больш простымі.

РАКАМ можа здацца, што праблемы з новым рабочым праектам звядуць яго на нішто. Аднак, падобна, вы перанерваваліся і не вельмі адэкватна рэагуеце на падзеі. Поспех на вашым баку. У рэшце рэшт — да чацвярга вы павінны дасягнуць прагрэсу. На асабістым фронце хтосьці хоча пагаварыць з вамі аб будучым. Не адхіляйце гэту просьбу. Пазней вам цяжэй будзе даказаць сваю праўду.

ІЛЬВАМ спатрэбіцца даказаць сваю адданасць справе з дапамогай чэкавай кніжкі. «Расплата» — працэс балючы, але ў доўгатэрміновым плане прынясе карысць. Пагасіце ўсе свае даўгі без скрыгатання зубамі, з усмешкай. У самы бліжэйшы час гэта заўважаць, і ваш прафесіянальны рэйтынг нястрымна пойдзе ўверх.

Адносіны з дамашнімі ў ДЗЕЎ не будуць адрозніваца прастатой, аднак згладжваць сітуацыю прыйдзецца самастойна, і ў гэтым вам будзе спадарожнічаць поспех. Не шкадуйце добрых і шчырых намаганняў. Падобна, што такім чынам вы пракладзіце сабе ўпэўнены шлях да самых навагодніх святаў.

Няўдача прымусіць ШАЛІ ўзяць пад сумненне ўласныя сілы і здольнасці, і дарэмна. Не трэба браць толькі на сябе адказнасць, якую павінен несці ўвесь калектыў. Падзяліцеся сваімі сумненнямі з людзьмі, якім вы безумоўна давяраеце, — яны падбадзёраць вас. Нечакана будучы тыдзень можа ператварыцца ў прыемнае рамантычнае захапленне. Сустрэчы ў чацвер уяўляюцца асабліва шматабяцальнымі.

СКАРПІЁНАМ удасца выкруціцца са складаных фінансавых праблем, але толькі пры адной умове — захоўвайце ўсмешку і цвёрды, упэўнены ў сабе голас. Але не перахітрыце самога сябе. Гэтыя праблемы на самай справе сур'ёзныя. Яны патрабуюць доўгатэрміновага вырашэння і з'яўляюцца вашым сапраўдным прыярытэтам. У асабістым плане аўторак і чацвер — самыя ўдалыя дні. Ваша чароўнасць будзе тварыць цуды.

Венера ўвойдзе ў сузор'е СТРАЛЬЦОЎ на гэтым тыдні, і гэта добры знак для вясёлага адпачынку. Пад канец тыдня на дзелавым гарызонце могуць з'явіцца хмаркі, але няхай яны вас не пужаюць. Ёсць людзі, якія заўсёды не супраць зрабіць з мухі слана.

Для КАЗЯРОГАЎ канец тыдня абяцае шмат дзелавых сустрэч, якія запатрабуюць намаганняў. Для вас асабіста гэта добры тыдзень, нягледзячы на тое, што адзін з рабочых праектаў рухаецца не так хутка, як бы вы таго жадалі. Набярыцеся цярпення — у студзені за вамі ніхто не ўгоніцца.

Сустрэча па фінансавых ці юрыдычных пытаннях на гэтым тыдні будзе мець стрэсавы характар для ВАДАЛЕЯЎ. Нехта спрабуе схіліць вас да дзеянняў, якія здаюцца вам фундаментальна памылковымі. Даверцеся сваім інстынктам, прытрымлівайцеся свайго парадку дня. Гэта прынясе добрыя вынікі, гэтак жа як і нечаканы кантакт у чацвер.

Здаецца, ні адна праблема не можа быць вырашана без РЫБ — усе дамагаюцца вашай увагі і спагады. Яны іх атрымаюць, але ў суботу вы адчуеце, што вашы сілы на зыходзе. Не разрывайцеся на часткі, захоўвайце кантроль за справамі, якія датычацца асабіста вас. Калі гэта прывядзе да канфліктаў з сябрамі, на наступным тыдні яны застануцца ў мінулым.

**Ігар ПОЛЬСКІ,**
**кар. ІТАР-ТАСС,**
*Лондан.*

*БЫВАЛІЦЫ*

# САНТЭХНІК-УНІКУМ

**ПРА слесараў-сантэхнікаў ходзіць многа розных анекдотаў, баек і плётак. І ўсе яны зводзяцца да аднаго — гэта катэгорыя майстроў нашага быту можа ўзяць «на грудзі» спіртных напояў не менш чым па вядру.**

Але я не маю намеру пераказваць нейкія смешныя здарэнні ці выпадкі, бо тут не да жартаў. Я раскажу вам быль, вельмі дзіўную, якую сам пачуў ад жонкі сантэхніка. І шчыра прызнаюся: калі б гэта расказаў хтосьці іншы, далібог, не паверыў бы!

Аднойчы, вяртаючыся дадому ў горад з нашага дачнага пасёлка на электрычцы, я пахваліў у размове з суседкай яе мужа, які ў апошні тыдзень завіхаўся на будаўніцтве шчытавога доміка.

— У майго Сямёна залатыя рукі, — азвалася Мар'я Пятроўна. — За што ні возьмецца, зробіць як след. Але ж, ведаеце, адна бяда — п'е.

Апошнюю фразу яна прамовіла з такой роспаччу ў голасе, што я ўжо быў не рады, што пахваліў яе мужа і наогул нагадаў ёй пра яго. Гамонка наша на пэўны момант перапынілася. А потым нечакана Мар'я Пятроўна пачала расказваць гэту дзіўную гісторыю, якая мяне вельмі ўразіла.

— Ведаеце, у майго Сямёна былі ўжо тры інфаркты.

— Як тры інфаркты?! — здзівіўся я. — Хіба ж такое ў медыцыне бывае?

— Здараецца, — спакойна адказала Мар'я Пятроўна. — Але мой муж, як мне сказалі дактары, нейкі рэдкі унікум. Пасля першага інфаркту, які здарыўся недзе гадоў дваццаць назад, мой Сямён трохі прыціх. Нейкі час устрымліваўся ад п'янак. Толькі на яго рабоце, вы ж ведаеце, гэта немагчыма: то ў адной гаспадыні кран сапсуецца, то ў другой яшчэ якое ліха. А разлік адзін — пляшка. І нягледзячы на сваю хваробу, ён зноў пачаў вяртацца дадому з «ганаровым эскортам» — два вядуць, а трэці ногі перастаўляе.

Праз колькі месяцаў — другі інфаркт. Адляжаўся Сямён у бальніцы. Акрыяў. Вярнуўся, як кажуць, з таго свету. Курыць кінуў, а піць — не. Праўда, піў ужо не столькі, колькі раней, але ж запоі не канчаліся. Я і ўгаворвала, і маліла, і палохала тым, што хворае сэрца не вытрымае яго п'янак і разарвецца дзе-небудзь у піўной ці ў пад'ездзе і ніхто не выратуе, — нічога не дзейнічала. Ні мае парады, ні дактароў.

— Твае дактары лухту нясуць, — звычайна са злосцю агрызаўся Сямён. — У мяне сэрца не такое, як у людзей. Яно як кранзмяшальнік. Усё, што я ні п'ю, працякае праз яго, не пакідаючы аніякага следу. П'янець — п'янею, а сэрца стукае як малаток. Калі дактары не могуць сцяміць, які мой арганізм, дык ты ж за трыццаць гадоў павінна была б ужо даўмецца.

Калі ж «хуткая» зноў забрала Сямёна ў бальніцу з трэцім інфарктам, дык доктар даверліва сказаў мне:

— Рыхтуйцеся да самага горшага. Больш як два тыдні ваш муж не працягне.

Я ўжо тады і гарнітур для Сямёна на пахаванне купіла. Сама ўстрывожылася і дзяцей напалохала.

Мар'я Пятроўна неяк засмучана папpавіла хустку і ўжо без хвалявання працягвала:

— З таго часу прайшло аж, дай бог памяць, чатырнаццаць гадкоў! Цяпер мой Сямён можа выпіць пляшку, а то і дзве «чарніла» — і нічога яго не бярэ, ніякая трасца. А ведаеце, у адной маёй знаёмай такі добры чалавек быў: не піў, не курыў. І раптам — раз і памёр. Вось тут і думай: ад чаго рана паміраюць людзі? Адны, як мой Сямён, п'юць і жывуць, а другія нават і не нюхаюць і аддаюць Богу душу. Увогуле, за сваё жыццё з мужам я іншы раз думаю, што, пэўна, сапраўды ў яго не сэрца, а кранзмяшальнік. Бо, калі б яно было звычайнае, як ва ўсіх людзей, дык дзе ж яно вытрывала б гэткае...

Тут Мар'я Пятроўна замаўчала, бо не магла знайсці такое слова, якое перадало б сэнс таго, што робіць яе муж. І ўжо ў канцы свайго расказа прыгадала наогул анекдатычны выпадак:

— Неяк Сямён здзівіў і напалохаў таго доктара, які лячыў яго пасля трэцяга інфаркту. Праз год ці два дзяжурыў той доктар у бальніцы, і здарылася там нейкая аварыя — лопнула труба, ці што. Выклікалі брыгаду сантэхнікаў. Быў у той брыгадзе і мой Сямён. Пазнаў яго доктар і вачам сваім не паверыў: «Як, ты яшчэ жывы?!»

Вось такі унікум мой муж, — задуменна ўздыхнула Мар'я Пятроўна.

**Вячаслаў РАГАЧОЎ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 17 снежня

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Навіны. **8.15** Абібок. **8.45** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма. **9.00** Тэлебачанне — школе. Музыка. 3-ці клас. Музычныя знакі прыпынку. **9.20** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **9.50** Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак. **10.20** «Трапічная спёка». Тэлесерыял (ЗША). **11.20** IV Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-96». Адкрыццё фестывалю. **15.00** Навіны. **15.10** «Уся справа ў капелюшы», «Фімка». Мультфільмы. **15.35** Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 7-ы клас. Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі. **16.00** Педагагічны экран. Сучасная прафесіянальна-тэхнічная адукацыя. **16.45** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей. **17.10** Востры вугал. Прававая праграма па пісьмах гледачоў. **17.40** Музычны антракт. **17.50** Урокі Наталлі Наважылавай. **18.20** «Будзьце здаровы». **18.35** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад. **19.05** «Беларусь — Кітай: усходні вектар супрацоўніцтва». **19.40** «Трапічная спёка». Тэлесерыял (ЗША). **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.10** «Зоркі» на экране. «Знахар». Маст. фільм (Польшча). 2-я серыя. **23.20** Творцы. Кампазітар Марыяна Марозава. **24.00** Навіны.

### ГРТ

**11.00** Навіны. **11.10** У эфіры Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.50** Валерый Залатухін у фільме «Пакет». **13.00** Брэйн рынг. **14.00** Навіны. **14.20** «Касмічныя выратавальнікі лейтэнанта Марша». Мультсерыял. **14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.55** Мульцітролія. **15.10** Чароўны свет, ці Сінема. **15.40** «Карын і яе сабака». Маладзёжны серыял. **16.05** ...Да шаснаццаці і старэйшым. **16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў». **17.00** Навіны. **17.15** «Новая ахвяра». Серыял. **18.05** Надвор'е. **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Угадай мелодыю». Тэлегульня. **19.00** Тэма. **19.45** Спакойнай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.40** Праграма перадач. **20.45** Аляксей Эйбажэнка і Віктар Коршунаў у дэтэктыве «Па тонкім лёдзе». 1-я серыя. **22.25** Навіны. **22.35** «Па тонкім лёдзе». 2-я серыя. **0.05** Прэс-экспрэс. **0.25** Праграма перадач.



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.* ***ФАКС:*** *68-27-79, 68-28-77.* ***E-mail:*** *daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7865.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 9 10 11 12
П 2 3 4 5 7 8 9 10 11 12